ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА

## ПАСТАНОВА

*ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнні абласной арганізацыі ТБМ (Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны)*

Падтрымліваючы ініцыятыву Гомельскай гарадской Рады ТБМ і абласнога ўпраўлення адукацыі па стварэнні абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы, устаноўчая канферэнцыя

**п а с т а н а ў л я е:**

1. Абвясціць стварэнне абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якая кіруецца ў сваёй дзейнасці Статутам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і першаступеннай задачай мае адраджэнне ў духоўным жыцці народа беларускай мовы і праз яе ўсёй нацыянальнай культуры.

2. Прасіць аблвыканкам і Рэспубліканскую Раду ТБМ зарэгістраваць абласную арганізацыю ТБМ і аказваць ёй падтрымку ў дзейнасці, вызначанай Статутам.

3. Абласная канферэнцыя вітае ўсякі грамадскі рух, які спрые адраджэнню беларускай культуры, мовы, дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь, і выказвае спадзяванне, што кіраўніцтва органаў улады вобласці, усе грамадскія арганізацыі і сродкі масавай інфармацыі будуць рабіць усё магчымае для падтрымкі гэтага працэсу.

4. Абласная ўстаноўчая канферэнцыя заклікае ўсіх грамадзян, якія пражываюць у вобласці, актыўна падтрымаць дзейнасць Таварыства.

5. Канферэнцыя ўхваляе падрыхтаваны аргкамітэтам тэкст Звароту да Прэзідэнта.

Устаноўчы сход сяброў Таварыства беларускай мовы,

**кастрычнік, 12-га, 1994 год, Гомель.**

## ЗВАРОТ

*да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад удзельнікаў Гомельскай абласной канферэнцыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

Паважаны спадар Прэзідэнт!

Да Вас звяртаюцца ўдзельнікі Гомельскай абласной канферэнцыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Мы, як і ўсе сумленныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, заклапочаны лёсам нашай роднай мовы. Яна, і толькі яна ёсць і будзе адзінай дзяржаўнай мовай нашай незалежнай Беларусі.

Мы патрабуем:

1. Строга кантраляваць выкананне Закона аб мовах у дзяржаўных установах, для чаго лічым патрэбным стварыць спецыяльную камісію.

2. Спыніць шальмаванне дзяржаўнай мовы і дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь, зацверджаных Канстытуцыяй.

3. Забараніць дзейнасць палітычных партый і арганізацый, накіраваных супраць дзяржаўнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны.

Зычым Вам плёну ў абдудове нашай дзяржаўнасці, што ёсць адзіным гарантам годнага жыцця ўсіх народаў Беларусі.

*Прынята аднагалосна.*

12 кастрычніка 1994 г.

г.Гомель.

РУПЛІЎЦЫ

*Уладзімір Паўлавіч Кармілкін — чалавек адметнага лёсу: вырас у сям'і патомных камуністаў, шмат гадоў праслужыў ва Узброеных Сілах СССР, а калі выйшаў на пенсію — нечакана для сябе і для іншых — стаў удзельнікам нефармальнага руху. Быў фатографам-аматарам. Паступова вырас у майстра. Яго работы, насычаныя эмоцыямі і глыбокім сэнсам, нацэленыя на перадачу драматычных і гераічных момантаў з жыцця сучаснікаў, ахвотна публікуюць беларускамоўныя выданні («Чарнобыльскі шлях» (1989), «Сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў прысягаюць на вернасць Беларусі» (1992), «Дзяды ў Курапатах» (1993), «Войска супраць дзяцей і старых» (1994), «Дэлегаты III з'езда БНФ» (1993), «Зянон Пазьняк і Васіль Быкаў» (1993), «Алесь Адамовіч» (1993), «Мікола Ткачоў» (1993) і іншыя).*

*Уладзімір Паўлавіч лічыцца чалавекам Народнага фронту, але гэта не зусім так. Дэмакрат і патрыёт, ён заадно з усімі, хто змагаецца за годнае жыццё беларускага народа. І яшчэ Кармілкіна не-не ды і назавуць летапісцам беларускага Адраджэння, паколькі ён запісвае на магнітную стужку выступленні дзеячаў, якіх час выводзіць у духоўныя лідэры нацыі, а таксама фатаграфуе мерапрыемствы БНФ, робіць фотаальбомы, фотастэнды і фотавыставы па свежых слядах падзей і з нагоды юбілеяў і святочных дат. Магчыма, перабольшання тут і няма, але да Уладзіміра Паўлавіча больш стасуецца іншае азначэнне — «чорнарабочы Адраджэння». Паколькі ён выконвае і ўсялякую іншую работу па забеспячэнні дзейнасці БНФ. Карацей, робіць усё, што можа, і ўсё, што ўмее, дзеля справы, якой служыць.*



# ЯГО ХАЦЕЛІ РАССТРАЛЯЦЬ ПАД НУМАРАМ 47

**— Уладзімір Паўлавіч, сёння ўсё больш і больш людзей становяцца прыхільнікамі адраджэння беларускай мовы, культуры і дзяржавы. А як Вы, рускі па нацыянальнасці і прафесійны вайсковец, набылі статус беларускага адраджэнца? Што на Вас паўплывала?**

— Сапраўды, я запісаны рускім. Я нарадзіўся ў Смаленску, але доўга не ведаў, што мой родны горад быў горадам беларускім. Нам казалі, што ніякія мы не беларусы, а чыстакроўныя русакі. З гэтым я і пайшоў у жыццё. Жыву ў Менску з 1945 года, куды бацьку-афіцэра перавялі служыць у штаб арміі. Мы жылі ў верхнім горадзе на Тарговай вуліцы, дзе захаваліся старыя драўляныя будынкі. Што мяне тады найбольш уразіла, дык гэта чысцюткая, крынічная вада Свіслачы, у якой плавалі рыбкі. З ракі мы пілі ваду, купаліся ў ёй. Як пачаў ездзіць за горад на веласіпедзе, каб палюбавацца прыродай, тады і пачаў знаёміцца з карэннымі беларусамі. Дадам, што выхоўваўся ў сям'і ярых камуністаў і сталіністаў. Камуністамі былі мае дзед, дзядзька і бацька. Памятаю, маці вышывала партрэт Леніна, а я ездзіў на матацыкле з партрэтам Сталіна на ветравым шкле.

**— А як адносіліся да беларусаў у афіцэрскім асяроддзі?**

— Скажу пра школу і сваіх аднагодкаў — дзяцей ваеннаслужачых. У нашых табелях было напісана: «Вызваляецца ад вывучэння беларускай мовы». І гэта, ведаеце, накладвала адпаведны адбітак на адносіны дзяцей афіцэраў да беларускай культуры і беларусаў-школьнікаў. Урокі беларускай мовы мы прагульвалі на дварэ. Аб самой мове ішла гаворка, што яна брыдкая, грубая, — не параўнаць з украінскай, не тое, што з расійскай. Беларусаў абзывалі бульбашамі, насміхаліся над іх вымаўленнем. Школа не давала магчымасці такім, як я, вывучаць беларускую мову, сеяла ў душах дзяцей зерні вялікадзяржаўнага шавінізму. Цяпер я разумею, чаму такое адбывалася: каб паказаць, што беларусы — гэта адно, а рускія — зусім іншае. Я рос і наіўна думаў, што на галаву вышэй за кожнага беларускага хлопчыка. Калі служыў у арміі — бачыў тое самае — раз'яднанне людзей па нацыянальнай прыкмеце. Асабліва даставалася літоўцам і эстонцам. Іх больш пасылалі ў нарад, больш выкарыстоўвалі на чорных работах, насміхаліся над імі. Я назіраў здзеклівыя адносіны да іх з боку афіцэрскага корпуса, старшын і прапаршчыкаў. Вось, прыкладам, чалавек працуе на кухні. Яго аклікаюць не па імені, не па прозвішчу, а проста так: «Эй ты, немец (або «Эй ты, фашыст»), ідзі сюды!»

**— І ён ішоў?**

— Ён падымаўся і паціху ішоў. Эстонцы, між іншым, ніколі не спрачаліся, не ўдзельнічалі ў бойках, былі ўраўнаважаныя і старанныя. З арміі я вынес перакананне аб той несправядлівасці, якая чынілася ў адносінах да людзей іншых нацыянальнасцей. У арміі ніколі не было адзінства і няма яго дагэтуль. Што да мяне, то я добра адносіўся як да прыбалтаў, так і да беларусаў, якія, дарэчы, не гуртаваліся разам, як, прыкладам, тыя ж грузіны або прыбалты. Я спрабаваў вывучаць эстонскую мову і ведаў на той час, што беларусы маюць вялікіх пісьменнікаў — Коласа, Купалу, Багдановіча.

**— Вернемся да галоўнай тэмы: калі Вы сталі духоўным дысідэнтам?**

— Канчаткова я ім стаў у арміі. А да гэтага на мае перакананні і паўплывала так звана і справа крамлёўскіх урачоў. Інтуіцыя мне падказала, што гэта справа «шыта белымі ніткамі». Тады я ўпершыню адчуў ушчэрбнасць рэжыму і напісаў з дзесятак улётак (раскідаў іх па праспекту Сталіна), у якіх было сказана: «Далоў тыранаў!» і яшчэ штосьці пра свабоду. Пад тыранамі я меў на ўвазе Сталіна, Берыю, Малянкова і іх паплечнікаў.

**— Вы зрабілі гэта патаемна ад бацькоў?**

— Вядома ж. Хіба бацька, які раз за разам выбіраўся сакратаром партарганізацыі і меў шмат узнагарод па партыйнай лініі, мяне б зразумеў?

**— А далей было што?**

— Яшчэ да арміі, у 1954 г., я працаваў на заводзе імя Леніна, дзе ўпершыню адчуў той непамерны ідэалагічны прэс, пад якім жыло грамадства. Яго стваралі сваёй дзейнасцю палітычныя гурткі, арганізацыі, сродкі масавай інфармацыі. А я не цярплю, каб на мяне ціснулі зверху.

**— І тым не менш Вы праслужылі ў такой жорсткай структуры, як армія, шмат гадоў?**

— Служыць з маім характарам было цяжка. Я не мог лавіраваць і хітрыць, да салдат адносіўся з дабратой, а камандзірам гаварыў праўду ў вочы, за што мяне і не любілі. Першы раз быў пакараны за фармальныя адносіны да палітзаняткаў і няправільнае вядзенне канспектаў. Прыгразілі звольніць з арміі і аддаць пад суд. У выніку атрымаў вымову. А ўсяго за службу ў арміі я атрымаў дваццаць тры спагнанні, хоць, праўда, зрэдку перападалі і ўзнагароды.

**— У партыю не ўступалі?**

— Не ўступаў, бо не хацеў рабіць так, як усе, хоць у арміі беспартыйных за людзей не лічылі.

**— І вось Вы пайшлі на пенсію...**

— Армейская несправядлівасць сфарміравала мяне дысідэнтам, таму раней ці пазней я павінен быў сустрэцца з Зянонам Пазьняком. Аднойчы пачуў ад вайскоўцаў, едучы ў аўтобусе, што так званыя нефармалы, на падабенства рагатых дзікуноў, маюцца ладзіць на Маскоўскіх могілках свой шабаш — Дзяды. Кастрычніцкай раніцай я паехаў на могілкі. А там ужо міліцыі што бобу. Да мяне падышлі, калі стаяў ля магілы маці. Пачалі распытваць, чаго я тут і ці не з тымі вунь людзьмі прыйшоў, што за брамай. Мяне гэта абурыла і здзівіла. Перад могілкамі я ўбачыў чараду людзей, сярод якіх былі старыя і дзеці з букетамі ў руках. Гэта былі звычайныя, прыстойныя, сімпатычныя людзі. На могілкі іх не пусцілі, і яны пасталі на калені памаліцца перад агароджай. Быў мітынг. Было супрацьстаянне народа і ўнутраных войскаў Было збіванне людзей, калі ў ход пайшлі газавыя балончыкі і дубінкі, а жанчын за валасы цягалі ў аўтобусы. Натоўп падаўся ў поле, а за ім, як ваўкі, ланцугом пайшлі спецназаўцы. Быў мітынг у полі, калі ўпершыню над галовамі людзей узвіўся нацыянальны беларускі сцяг. У душы маёй адбыўся пералом. Я адчуў сябе на баку

народа. Разам з усімі пайшоў у Курапаты, дзе пазнаёміўся з Пазьняком, Марачкіным, Арловым, супрацоўнікам «Звязды» Траяноўскім. З таго часу стаў сапраўдным пазьнякоўцам, стаў фронтаўцам. Я зразумеў, што такое камунізм і камуністы і як яны могуць дзейнічаць.

На Дзяды я прыйшоў з фотаапаратам і шмат здымаў. З кароткай стрыжкай і ў добрым паліто я нагадваў пераапранутага КДБіста, мяне не чапала міліцыя. Мае здымкі прыдаліся, калі Пазьняка спрабавалі судзіць за арганізацыю гэтай акцыі. Я хадзіў да пракурора і сведчыў супраць паліцэйскага самавольства ўлад, што начальству, ведама, не спадабалася. Затым я пачаў наведваць усе фронтаўскія імпрэзы, якія праходзілі ў Доме мастацтва, у Доме літаратара, у музеі М.Багдановіча, у майстэрнях на праспекце Машэрава і ў іншых месцах. Так пачалося маё супрацоўніцтва з БНФ.

**— Ці атрымліваеце Вы заданні ад Народнага фронту?**

— Ніколі. Да гэтага часу працую ў ім самастойна. І ў арміі такім быў. А раблю ўсё, што трэба. Трэба вянок зрабіць? Калі ласка. Адрамантаваць радыётэхніку? Калі ласка. Запісаць мітынг? Зноў жа гатоў. Кірующя пачуццём маральнага абавязку. Свае стэнды, фотагазеты выстаўляю ў памяшканнях, на вуліцах і ў месцах правядзення масавых акцый. Абыходжуся ўласнымі сіламі і грашыма. Адзінае, што мяне ахоўваюць ад нападак якіх-небудзь чыкінцаў або хуліганаў, каб яны не знішчылі выставу. Мае фота з'яўляюцца ў «Народнай газеце», «Беларускай энцыклапедыі», «Нашым слове», часопісах «Беларуская мінуўшчына», «Мастацтва», «Полацак». Іх можна ўбачыць у Зборы твораў В.Быкава, у кнізе М.Ткачова «Паходня», у кнізе З.Пазьняка «Сапраўднае аблічча» і іншых выданнях.

**— Ці сталі Вы сябрам БНФ?**

— Фармальна не ўступіў у Фронт. І гэта ў кагосьці ляжыць на сумленні. Сёлета мне споўнілася шэсцьдзесят гадоў. І я папрасіў, каб на юбілей мне ўручылі пасведчанне фронтаўца пад нумарам 47. Ды чамусьці не атрымаў яго. Не буду на гэтым настойваць. У душы і на справе я — фронтавец.

**— А чаму за нумарам 47?**

— Калі быў яшчэ жывы мой бацька, ён дзесьці даведаўся, што ўсе актывісты БНФ і прыхільнікі Адраджэння трапілі ў чорныя спісы. У выпадку перамогі ГКЧП гэтых людзей чакала расправа. Пазьняк у спісе ішоў першым. Я — сорак сёмым.



**Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Менскі парк Янкі Купалы, 19 чэрвеня 1994 г.**

Бацька быў на мяне злосны і аднойчы сказаў: «Вось ты дабегаешся, дастукаешся са сваім Фронтам. Цябе расстраляюць пад нумарам 47».

**— Якія ў Вас адносіны з лідэрам БНФ?**

— Ён карыстаецца маёй дапамогай, але ставіцца да мяне суха і насцярожана. І не толькі да аднаго мяне. Хацелася б часцей бачыць яго прыветны погляд і ўсмешку на твары. Няхай ён будзе ўпартым, непахісным і нязломным у дасягненні сваёй мэты, але няхай ён стане больш мяккім і ўважлівым да людзей. У маім уяўленні Пазьняк — сімвал Беларусі і беларускасці. Ён першы расказаў пра трагедыю Курапатаў, першы ўзняўся супраць сённяшніх чырвона-карычневых. А колькі правёў масавых акцый, мітынгаў, мерапрыемстваў, пачынаючы ад Дзядоў і Чарнобыльскага шляху! Колькі добрага, важнага, патрэбнага для Бацькаўшчыны ён зрабіў! Але Пазьняку не хапае памочнікаў, перашкаджае слабая тэхнічная база БНФ. За ўсё Зянон Станіслававіч бярэцца сам, таму яму цяжка маральна і фізічна.



**Алесь Адамовіч і Зянон Пазьняк.**
**Акцыя «Чарнобыльскі шлях», 1990 г.**

**— Ваша стаўленне да гістарычнай беларускай сімволікі?**

— Прызнаю яе адзінай і незаменнай. Калі мы яшчэ жылі ў Саюзе, я пашыў бел-чырвона-белы сцяг і паехаў з ім на пахаванне акадэміка Сахарава. Са мной паехалі яшчэ тры чалавекі. Наша інтэрнацыянальная група — два беларусы, рускі і яўрэй — ішла за труной Сахарава, прыспусціўшы долу сцяг з жалобнай стужкаю. На нас напалі васільеўцы з «Памяці» — хацелі адабраць сцяг, а абаранілі нас зеленаградцы, якія вылучалі Сахарава ў народныя дэпутаты. Хачу падкрэсліць: хоць нас ніхто не ўпаўнаважваў, але прыехалі мы туды ад імя БНФ. У агенцтве «Навіны» да партрэта акадэміка мы паклалі кветкі і паставілі свечку з надпісам: «БНФ — Сахараву».

**— Дзе цяпер Ваш сцяг?**

— У Санкт-Пецярбургу, у музеі рэвалюцыі. Яго забраў у нас супрацоўнік гэтага музея спадар Трубкін.

**— Ці задавальняе Вас грамадскі характар Вашай дзейнасці, тое, што Вы робіце? У гэтым аспекце прыгадаю Ваш артыкул у «Народнай газеце» ў абарону беларускай мовы («Давайте не будем класть ноги на стол соседа») і судовую справу з чыкінскай газетай «Мы и время», якую Вы выйгралі.**

— Мала сказаць, што задавальняе. У гэтым увесь сэнс майго жыцця. Вось закрылі, напрыклад, радыёстанцыю «Крыніца», перасталі выходзіць радыёперадачы і «Беларускай маладзёжнай» — з'явілася газета пад такой назвай. Як пенсіянер, як рускі я імкнуся падтрымаць выданне і яго калектыў. Купляю газету, званю ў рэдакцыю, каб сказаць людзям добрае слова. Быў на юбілеі «Маладзёжнай».

Перажываю і за «Свабоду». Удзельнічаў у акцыях пратэсту, калі гэту газету спрабавалі закрыць — стаяў перад Домам друку ў пікеце.

Як вядома, БНФ падтрымліваў рух Народных франтоў Прыбалтыкі, што вялі барацьбу за свабоду і суверэнітэт сваіх краін, якія паспрабавалі аддзяліцца ад СССР. У пакаранне Масква аб'явіла Літве эканамічную блакаду і пачала наладжваць там палітычныя правакацыі. Я з фронтаўцамі, у групе з трынаццаці—пятнаццаці чалавек, пачаў туды ездзіць. Мы аказвалі маральную падтрымку Саюдзісу, сустракаліся з Ландсбергісам, распаўсюджвалі ў Вільні свае фронтаўскія выданні, арганізоўвалі фотавыставы на тэму: «Рукі прэч ад Літвы!». А калі пралілася нявінная кроў у ноч з 12 на 13 студзеня 1991 г., мы выехалі ў Вільню і нейкі час пражылі з яго абаронцамі на барыкадах, ля вогнішча перад парламентам, каля тэлецэнтра. Да нас далучыліся людзі з Ленінграда, з Украіны. У сутычках з амонам нам не давялося ўдзельнічаць, але мы былі да гэтага гатовы. Мы прымалі ўдзел у пахаванні ахвяр той страшнай ночы, на якое прыбыло шмат людзей з Беларусі. Я прывёз адтуль шмат здымкаў.

**— Якая з дэмакратычных беларускіх арганізацый Вам найбольш блізкая?**

— Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Я не толькі фатаграфаваў акцыю прысягі БЗВ на вернасць Беларусі, але і сам прысягаў разам з імі — у форме прапаршчыка-авіятара. Я гарачы прыхільнік гэтага Згуртавання таму, што яго людзі — патрыёты Беларусі, спрабавалі праводзіць у войску патрыятычнае выхаванне на прыкладах з айчыннай гісторыі і з жыцця гераічных продкаў. Гэта была спроба кансалідаваць беларусаў у войску на аснове нацыянальнай ідэі, што безумоўна паспрыяла б і выкараненню такой страшнай з'явы, як дзедаўшчына.

**— Паколькі Вы родам са Смаленска, то ці не прыходзіла Вам у галаву думка, што Вы, магчыма, не рускі, а беларус?**

— Калі ў апошні раз адбываўся перапіс насельніцтва і ў мяне спыталі, хто я па нацыянальнасці, дык я адказаў: «Я рускі беларус». І паўтарыў гэта перапісчыкам некалькі разоў. Мяне так і запісалі.

**Распытвала**
**Ірына КРЭНЬ.**
**Фота Уладзіміра**
**КАРМІЛКІНА.**



Міхась Ткачоў (злева). Плошча Перамогі, 9 мая 1991 г.

## ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ

А.М.Літвін, Я.С.Паўлаў

# БЕЛАРУСЫ: НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ І ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ВАЙСКОВЫЯ ФАРМІРАВАННІ

## (1917 — 1941 гг.)

*(Працяг. Пачатак у № 42.)*

Працэс стварэння часцей Чырвонай Арміі на Беларусі пачаўся пасля заняцця Менска немцамі. Як адзначаецца ў справаздачы Аблвыканкамзаха, да красавіка 1918 г. у Заходняй вобласці ў Чырвоную Армію запісалася каля 10 тыс. чалавек. Да канца 1918 г. у Віцебскай і Магілёўскай абласцях добраахвотнікамі ў Чырвоную Армію запісалася больш як 30 тыс. рабочых і сялян. Былі сфарміраваны 1, 2, 3, 4 і 5-ы чырвонаармейскія палкі імя Віцебскага савета, Сенненскі народны полк, 1-ы Мсціслаўскі народны батальён, 1-ы Рэвалюцыйны полк Аршанскага Савета. Атрады Чырвонай Арміі былі створаны таксама ў Быхаўскім, Чавускім, Чэрыкаўскім і іншых паветах. Летам 1918 г. савецкі ўрад перайшоў ад добраахвотнага прынцыпу фарміравання Чырвонай Арміі да прызыўной сістэмы, да абавязковай ваеннай службы працоўных у арміі. З верасня 1918 г. да канца года з Беларусі было прызвана ў Чырвоную Армію каля 100 тысяч рабочых і працоўных сялян, на месцах наладжвалася ваеннае навучанне працоўных. З Беларусі на Усходні фронту 1918 г. былі накіраваны 1-ы рэвалюцыйны полк імя Менскага Савета, 2, 3-ці палкі імя Віцебскага Савета, падраздзяленні Магілёўскай дывізіі, а таксама ўкамплектаваныя на Беларусі штабы 1-й Смаленскай і 1-й Арлоўскай дывізій. Апрача гэтага, на Усходні фронт былі накіраваны асобны інжынерны батальён імя Віцебскага Савета і перасоўны шпіталь 1-й Смаленскай дывізіі.

Як вядома, у 1919 г. бальшавіцкая ўлада на Беларусі мяняла сваё аблічча некалькі разоў. Спачатку была абвешчана Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь — ССРБ. Затым яе злілі з Літвой і абвясцілі аб утварэнні Літоўска-Беларускай ССР (Літбел), потым зноў абвясцілі аб утварэнні ССРБ. На войсках гэта адбівалася вельмі балюча. Таму ў маі 1919 г. ЦК РКП(б) прымае дырэктыву аб ваенным адзінстве. У адпаведнасці з гэтым дакументам вайсковыя часці, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларуска-Літоўскай ССР, былі аб'яднаны ў 16-ю армію, якая падпарадкоўвалася Рэўваенсавету. Замест ваенных аддзелаў пры выканкамах Саветаў паўсюдна сталі ствараць ваенныя камісарыяты. Пасля заканчэння грамадзянскай вайны было праведзена значнае скарачэнне узброеных сіл, к 1 лютага 1923 г. іх колькасць даведзена да 600 тыс. чалавек.

Чырвоная Армія пераводзілася на тэрытарыяльна-міліцыйныя ўмовы існавання, што прадугледжвала раўнамернае размяшчэнне часцей па ўсёй краіне, а не паблізу найбольш верагодных пунктаў нападу праціўніка, як было раней.

Пераход да тэрытарыяльнай сістэмы арміі быў вымушанай мерай, выкліканай эканамічнымі цяжкасцямі краіны, неабходнасцю скарачэння затрат дзяржавы на ўтрыманне арміі.

На тэрыторыі Заходняй ваеннай акругі, якая ў асноўным размяшчалася ў Беларусі, першым тэрытарыяльным фарміраваннем стала 2-я Беларуская дывізія, створаная ў 1923 г. на падставе 2-й Тульскай стралковай дывізіі. Яе палкі і асобныя падраздзяленні дыслацыраваліся ў Барысаўскім, Ігуменскім (Чэрвеньскім), Слуцкім і Менскім раёнах. Штаб дывізіі размяшчаўся ў Менску. 10 верасня 1923 г. пачаўся першы вучэбны збор пераменнага складу гэтага фарміравання. Праз два тыдні прызыўнікі прынялі вайсковую прысягу. Пасля гэтага камандуючы Заходняй акругай А.І.Корк уручыў дывізіі Чырвоны сцяг. Фактычна гэты акт паклаў адлік гісторыі будавання беларускіх тэрытарыяльна-міліцыйных часцей у складзе адзінай Чырвонай Арміі. У інтарэсах падрыхтоўкі нацыянальных кадраў у Заходняй акрузе была створана Беларуская аб'яднаная вайсковая школа імя ЦВК БССР. Нягледзячы на складаныя ўмовы (адсутнасць неабходных навучальных дапаможнікаў, кадраў, якія добра валодалі нацыянальнай мовай, выпрацаванай тэрміналогіі, нізкі агульнаадукацыйны ўзровень курсантаў і г.д.), новы навучальны цэнтр змог наладзіць работу і ва ўстаноўлены тэрмін падрыхтаваць неабходную колькасць нацыянальных камандзіраў. З аб'яднанай Беларускай школы выйшлі такія, стаўшыя потым добра вядомымі военачальнікамі, як У.Ф.Маргелаў, У.А.Пянькоўскі, І.І.Якубоўскі і іншыя.

У наступныя гады работа па пераводу войск Заходняй акругі на тэрытарыяльна-міліцыйны прынцып камплектавання працягвалася. На новы вайсковы стан перайшоў 16-ы стралковы корпус (Магілёў), 29-я Вяцкая стралковая дывізія (2 палкі яе размяшчаліся ў Беларусі, а астатнія часці — на Смаленшчыне), 27-я Омская стралковая дывізія (дыслацыравалася ў Віцебску і Оршы), 33-я Самарская стралковая дывізія (на Магілёўшчыне). Упачатку 30-х гадоў яна стала нацыянальнай дывізіяй, паколькі ў яе складзе беларусы перабольшвалі 80 працэнтаў, а таксама 37-я (два палкі якой размяшчаліся на тэрыторыі Беларусі). Такім чынам, з 28 злучэнняў (17 стралковых, 5 кавалерыйскіх, 1 дэсантнае), якія меліся на тэрыторыі Заходняй (з кастрычніка 1926 г. — Беларускай) ваеннай акругі, толькі 5 сталі тэрытарыяльна-міліцыйнымі.

Трэба адзначыць, што да канца 20-х гадоў цэнтральныя ўлады (партыйныя, савецкія і ваенныя) станоўча адносіліся да працэсу фарміравання тэрытарыяльна-міліцыйных часцей.

Характэрнай рысай гэтага працэсу ў Заходняй ваеннай акрузе з'явілася тое, што ў новых вайсковых структурах даволі сур'ёзна праводзілася палітыка беларусізацыі. У першую чаргу яна, безумоўна, закранула тыя часці і падраздзяленні, якія ў большасці сваёй былі ўкамплектаваны з ліку карэннага мясцовага насельніцтва. Такія фарміраванні фактычна станавіліся нацыянальнымі. Першым нацыянальным фарміраваннем у Заходняй ваеннай акрузе, як зазначалася вышэй, стала 2-я Беларуская стралковая дывізія, дзе колькасць беларусаў дасягала 60 працэнтаў. Беларускім стаў і 16-ы стралковы корпус. У трох палках 33-й стралковай дывізіі (97, 98 і 99-м) 40 працэнтаў старшых і сярэдніх камандзіраў паходзілі з Беларусі, а сярод малодшых камандзіраў гэты працэнт перавышаў лічбу 90.

У інтарэсах паспяховай падрыхтоўкі нацыянальных вайсковых кадраў друкаваліся беларускія лемантары, падручнікі, слоўнікі-дапаможнікі, статуты. Існаваў спецыяльны вайсковы сектар Дзяржвыдавецтва Беларусі. Да 1935 г. (пачатак згортвання тэрытарыяльных часцей і злучэнняў) ён надрукаваў 418 найменняў кніг і брашур, а па-руску — толькі 8. У акруговай газеце «Чырвонаармейская праўда» змяшчаўся асобны «куток беларуса». Спецыяльная рубрыка прысвячалася непасрэдна пытанню беларусізацыі ў вайсковых часцях. У штабе акругі існавала спецыяльная камісія па перакладу на беларускую мову вайсковых статутаў і распрацоўцы беларускай ваеннай тэрміналогіі.

У 1927 г. быў выдадзены «Практычны беларускі вайсковы слоўнік». Пры яго ўкладанні былі выкарыстаны апрацаваныя Вайсковай Камісіяй Інбелкульту лексічныя матэрыялы, ужо выдадзеныя выпускі Беларускай Навуковай Тэрміналогіі. Слоўнік налічваў каля дзесяці тысяч слоў і ўстойлівых словазлучэнняў трох функцыянальных груп.

У дапамогу камандзірам-небеларусам арганізоўваліся спецыяльныя падрыхтоўчыя курсы. Значную дапамогу ў справе беларусізацыі войска аказвалі навукоўцы і супрацоўнікі Інбелкульту, Беларускай Акадэміі навук, Наркамата адукацыі БССР і іншыя ўстановы рэспублікі. Агульнымі намаганнямі камандавання, саміх вайскоўцаў, а таксама шырокага кола дзяржаўных і грамадскіх устаноў БССР да канца 20-х гадоў была закончана беларусізацыя 2-й Беларускай, 33-й Самарскай стралковых дывізій, а таксама Аб'яднанай Беларускай школы. Гэты працэс працягваўся і ў іншых часцях, што станоўча адбівалася на ўзроўні баявой падрыхтоўкі войск.

Трэба адзначыць, што адначасова з палітыкай стварэння нацыянальных вайсковых фарміраванняў у войску пашыралася інтэрнацыянальнае выхаванне вайскоўцаў у яскрава акрэсленым накірунку «пралетарскага інтэрнацыяналізму».

Практычная дзейнасць тэрытарыяльных вайсковых фарміраванняў, ажыццяўленне ваеннай рэформы 20-х гадоў паказала, што пры поўнай колькасці кадравых вайсковых часцей, выкарыстоўваючы тэрытарыяльна-міліцыйны прынцып камплектавання, ствараючы нацыянальныя фарміраванні, магчыма было ахапіць ваенным навучаннем шырокія масы насельніцтва, належным чынам падрыхтаваць іх да абароны. Разам з тым, далейшая цэнтралізацыя кіраўніцтва, стварэнне унітарнай таталітарнай дзяржавы, пагаршэнне міжнароднага становішча і павелічэнне ваеннай пагрозы патрабавалі і адпаведнай адзінай арміі.

З восені 1929 г. у Беларусі пачалося інтэнсіўнае стварэнне негатыўнага вобраза «нацдэмаўшчыны», якое ахапіла ўсе сферы і азначала адмову ад палітыкі беларусізацыі. Разгортванне бескампраміснай барацьбы з нацдэмамі і іншымі «ворагамі народа» фактычна сведчыла аб рэалізацыі прынцыпу іншай нацыянальнай палітыкі ў Беларусі — палітыкі антыбеларусізацыі. Што да лёсу тэрытарыяльна-нацыянальных вайсковых фарміраванняў, то ён таксама вырашаўся ў агульным рэчышчы антынацыянальнага псіхозу. У сярэдзіне — другой палове 30-х гадоў дзесяткі і сотні ваенных кадраў Беларускай акругі былі беспадстаўна рэпрэсіраваны. Многія з іх загінулі ў сталінскіх ГУЛАГах. А тыя, хто ўцалеў, вымушаны былі падпарадкавацца новым запатрабаванням у ваеннай палітыцы: у 1935—1938 гг. Чырвоная Армія стала пераводзіцца выключна на кадравы прынцып арганізацыі і камплектавання. Гэты прынцып быў канчаткова замацаваны Пастановай ЦК ВКП(б) ад 7 сакавіка 1938г. і Загадам Наркома абароны СССР К.Варашылава ад 16 сакавіка тагож года, згодна з якімі тэрытарыяльна-нацыянальныя часці і злучэнні рэарганізоўваліся ў агульнасаюзныя, кадравыя. Такая сістэма праіснавала да распаду СССР і абвяшчэння былымі савецкімі рэспублікамі дзяржаўнага суверэнітэту.

У гады апошняй вайны выразна акрэслілася існаванне ў беларускім грамадстве дзвюх плыняў — камуністычнай і нацыянальнай. Некаторая частка людзей займала чакальную пазіцыю, імкнулася захаваць сваё жыццё, жыццё сваёй сям'і, асабістую маёмасць. Дамінуючай і найбольш актыўнай з'яўлялася першая плынь. Яна мела на сваім баку моцныя традыцыі, арганізацыйныя структуры, падтрымку большасці свайго народа, дзяржавы, рэгулярнай арміі.

Беларускі нацыянальны рух на першым этапе вайны не ўяўляў значнай сілы. Робячы стаўку на падтрымку акупантаў, ён, зразумела, не мог разлічваць на сімпатыі шырокіх народных мас. Пад канец вайны па розныя бакі барыкад аказалася значная колькасць людзей, якія фанатычна верылі ў свае ідэалы.

У сакавіку 1944 г. пасля цяжкіх паражэнняў немцаў на ўсходнім фронце акупацыйныя ўлады далі згоду Беларускай Цэнтральнай Радзе (БЦР) на фарміраванне аддзелаў Беларускай Краёвай Абароны (БКА). Некалькі падраздзяленняў БКА былі ўтвораны з фарміраванняў беларускай самаахоўы. У ліпені 1944 г. частка гэтых фарміраванняў адступіла разам з гітлераўцамі. Спачатку яны былі дыслацыраваны ў Аўстрыі, а потым перакінуты на тэрыторыю Германіі. Нямецкае камандаванне намагалася выкарыстаць іх на Заходнім фронце. Але дарэмна: большая частка беларускіх жаўнераў перайшла на бок 8-й брытанскай і 3-й амерыканскай армій. Прычым многія жаўнеры БКА за мужнасць у змаганні з гітлераўцамі былі ўшанаваны амерыканскімі, англійскімі і італьянскімі ўзнагародамі.

**Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

*ЗГАДКІ*

# З ЛЕТАПІСУ ХРАМА...

У перыяд сталіншчыны ворагі беларушчыны выношвалі злачынныя планы знішчэння помнікаў нашай нацыянальнай культуры, у тым ліку і Чырвонага касцёла, размешчанага на самым вялікім пляцы Менска. Помніцца, што ў свой час сталічны гарвыканкам праводзіў выставу, дзе экспанаваўся макет запраектаванай «рэканструкцыі» гэтага пляца. На месцы касцёла там ужо «красаваўся» нейкі новы прыземісты гмах з надпісам, здаецца, «Вярхоўны Савет». Нельга было дапусціць разбурэння касцёла — шэдэўра неагатычнай архітэктуры з яркімі элементамі раманскага стылю, святога месца сталічных каталікоў.

Ведаючы, што ў ЦК КП Беларусі і ва ўрадзе працуюць манкурты, я напісаў ліст у Маскву (ЦК КПСС і Саўмін СССР), у якім даказваў, што менскі Чырвоны касцёл Сымона і Алены — адметны архітэктурны помнік, што ён упрыгожвае пляц, увесь горад і з'яўляецца шэдэўрам германічнага спалучэння традыцый старадаўняга дойлідства і горадабудаўнічых навацый пачатку нашага стагоддзя. Я падкрэсліваў таксама, што касцёл збудаваны з цэглы, прывезенай з далёкай Англіі, што ён узведзены лепшымі майстрамі Беларусі паводле старажытных узораў і па сваёй прыгажосці нічым не саступае славутым храмам Германіі, Англіі, Францыі.

Неўзабаве мяне выклікалі ў гарвыканкам. Свой учынак я растлумачыў перш-наперш дзейсным сяброўствам з Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры. Са мной доўга гутарылі прадстаўнікі савецкай і партыйнай улады розных узроўняў. І ўсё ж яны, урэшце, пагадзіліся, што Чырвоны касцёл — помнік архітэктуры. Вельмі верагодна, што гэта выратавала касцёльны будынак ад знішчэння, які праз пэўны час ператварылі ў рэспубліканскі Дом кіно. Для мяне ж асабіста тым разам усё абышлося.

Да слова, так здаралася не заўжды. Яшчэ да згаданых вышэй радкоў з летапісу Чырвонага касцёла мяне за іншыя лісты дырэктыўным органам у абарону беларускасці выключылі ў 1956 годзе з КПСС і, адпаведна, знялі з пасады загадчыка Маладзечанскага РАНА. А сакратар Маладзечанскага абкама КП Беларусі Сяргей Прытыцкі сказаў на бюро: «Выключаем Вас з партыі за лісты нацыяналістычнага зместу, напісаныя ў Маскву. Адзінае, што будзе выканана з вашых патрабаванняў, гэта — узвядзенне помнікаў Скарыне, Купалу, Коласу, Багдановічу. Мы не зрабілі б і гэтага, але... нас абавязала Масква»

Зараз мы, сталічныя каталікі, молімся ў менскім Чырвоным касцёле, захапляемся цудоўнай касцёльнай акустыкай і архітэктурай. Паэты і кампазітары сёння складаюць аб ім песні. Таму варта, відаць, асвятліць некалькі малавядомых радкоў з летапісу гэтага храма.

**Генадзь ЛАНЕЎСКІ,**
**ветэран вайны і працы,**
**інвалід Айчыннай вайны.**
г.Менск.



ЮБІЛЕІ

# Сваё 50-годдзе адзначыў беларускі ліцэй у Бельску-Падляскім

Усе гэтыя гады ён быў не толькі навучальным, але і культурным цэнтрам беларусаў Польшчы.

Вялікае значэнне ў ліцэі надаюць сувязям з Беларуссю. Гэта — кантакты з адной са школ Слоніма, супрацоўніцтва з Беларускім фондам культуры, навучанне выпускнікоў ліцэя ў вышэйшых навучальных установах Беларусі.

У дні юбілею адбылася сустрэча выпускнікоў ліцэя, а таксама адкрыццё мемарыяльнай дошкі — дара ліцэю Міністэрства культуры Беларусі і Савета Міністраў Беларусі.

**Я.КАЗЮЛЯ, Белінфарм.**

СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**

**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**

**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі паводныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**

**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

* * *

*Паважаная рэдакцыя!*

*З вялікай цікавасцю прачытаў пра ініцыятыву газеты «Наша слова». Такая прапанова мне вельмі спадабалася — на старую мелодыю стварыць разам новы Гімн. Прапаную свой пасільны ўклад у гэтую працу. Асаблівую ўвагу я звяртаў на тое, каб змест Гімна служыў справе патрыятычнага выхавання моладзі*

***Іван ЕМЯЛЬЯНАЎ, ветэран вайны і працы.***
*г.п.Сураж, Віцебшчына.*

# МЫ, БЕЛАРУСЫ

Мы, беларусы, — вольныя людзі!
Вольна і ў згодзе жадаем мы жыць.
Хай будзе мірным неба над намі,
А яснае сонца наш шлях азарыць.

Мы — мірныя людзі і патрыёты,
Радзіму любілі і будзем любіць.
А клікне Айчына — мы мужнымі будзем
І станем у шарэнгі яе бараніць!

Мы любім яе, Беларусь нашу родную,
Бацькоўскага краю зялёны прастор,
Лясы і даліны, палі залатыя,
І ясную гладзь паўнаводных азёр.

Слаўся ж у вяках, Беларусь наша родная!
Квітней і мацней з году ў год!
Табой ганарыцца будзе заўсёды
Наш працавіты і мужны народ.

* * *

***Шаноўная рэдакцыя!***

*Прапаную:*

Радок 7 замяніць на словы: «Наша «Пагоня»— сімвал Радзімы».

9. Нашы імкненні — моц і свабода —
10. Шчасце гартуюць з году ў год...
11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,
12. Міра жадае слаўны наш род.
18. Рэкі, як мова, прыгожыя тут

*З пажаданнем поспехаў* ***Э.ТОЗІК.***
*г.Калінкавічы.*

* * *

***Іван БАСЕЦКІ***

По матывах тэксту, прапанаванага рэдакцыяй

# МЫ—БЕЛАРУСЫ!

Мы — беларусы! Сонца свабоды
Зноў асвятляе ўхабісты шлях,
Будзе краіна вольнай заўсёды
Ў свеце прызналі Герб наш і Сцяг.
Прыпеў: Ты нам і маці, і песня, і слава,
Працаю годны кожны твой род,
Хай жа квітнее наша дзяржава,
Мірна жыве беларускі народ.

Хай жа Купалы, Коласа слова
Нас заклікае да лепшых падзей
З намі навекі родная мова,
Край памяркоўных мудрых людзей.
Прыпеў.

Увысь узнімайся, мірнае сонца,
Гонар і годнасць сплятайма ў вянкі
І, як малітву, кажам бясконца:
— Жыве Беларусь праз гады і вякі!
Прыпеў.

г.Менск.

***Віктар ГОЛУБ***

По матывах прапанаванага тэксту

# БЕЛАРУСЬ

Мы, беларусы, — народ старажытны,
У згодзе з усімі жадаем жыцця.
Край наш прывольны, людзі прыгожы,
Бела-чырвоны яднае нас сцяг.
Прыпеў: Колькі не будзе лёс наш ганебны,
Кожны з нас марыць аб лепшым жыцці.
Шчасце, свабода усім нам патрэбны —
Да гэтага ўпэўнена будзем ісці.
Лёс гістарычны цяжкі нам выпаў, —
Праз усё гэта мы векавечна прайшлі.
Мы, беларусы, — народ працавіты,
Хай наша праца прыносіць карысць.
Прыпеў.
Будзем цярпімы адзін да другога,
Ласку, пяшчоту ў сэрцы трымаць.
Будзем маліцца Госпаду Богу,
Каб на планеце мір захаваць.
Прыпеў.
Мы будзем за праўду змагацца старанна,
У згодзе і дружбе з суседзямі жыць.
Ні перад кім на калені не станем,
Хай Гімн наш дзяржаўны магутна гучыць!

в.Пад'ясенка,
Бабруйшчына.

*Шаноўная рэдакцыя!*

У пададзеным мной тэксце Гімна дапушчана памылка: замест слова «роўных» надрукавана чамусьці «родных» (№ 41 ад 12.10.94 г.).

Трэба чытаць: «І сярод роўных краін і народаў,
Жыві і квітней беларускі народ!»

З павагай

**Мікалай НАСКО.**

ЧЫТАЛІ?

*Журналіста Алеся Карлюкевіча добра ведаюць тыя, каму неабыякавы ідэі нацыянальнага Адраджэння. Яго артыкулы літаратуразнаўчай і краязнаўчай тэматыкі апошнім часам часта з'яўляюцца на старонках беларускай перыёдыкі. А нядаўна ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» убачыла свет першая яго кніга «Вяртанне да... Беларусі».*

# ВЯРТАННЕ ЗАБЫТЫХ ІМЁНАЎ

У першую чаргу згаданы зборнік нарысаў і эсэ будзе цікавы і карысны настаўнікам роднай літаратуры, мовы і гісторыі. Лепшыя старонкі кніжкі чытаюцца лёгка, на адным дыханні, ад іх проста нельга адарвацца. Менавіта такімі, напрыклад, з'яўляюцца эсэ «Кастрычніцкі пераварот не прыняла», дзе расказваецца пра лёс знакамітай і ў той жа час невядомай для нас рэвалюцыянеркі Кацярыны Брэшка-Брэшкоўскай, нарысы «Драма аднаго жыцця» (пра драматычныя акалічнасці лёсу пісьменніка і краязнаўцы Міколы Калінковіча), «Унучка славутага падарожніка» (пра жыццёвы подзвіг Соф'і Ельскай, якая паходзіць са славутага беларускага шляхецкага роду Ельскіх, які даў Беларусі і ўсяму свету не адно знакамітае імя).

Варта асобна спыніцца на эсэ «Чужыя вокны ў вокны мне глядзяць...», дзе аўтар распавядае пра варункі нялёгкай, нават трагічнай долі Міколы Іпалітавіча Канаша і Ларысы Геніюш, якія ў часы сталінскіх рэпрэсій бязвінна сталі пакутнікамі толькі за тое, што змагаліся за права любіць свой Край і звацца Беларусамі. А.Карлюкевіч падкрэслівае: узаемнае сяброўства гэты просты беларускі хлопец і геніяльная нацыянальная паэтэса пранеслі праз усё жыццё, не зважаючы на жорсткія выпрабаванні і пакуты. Да слова, Мікалай Іпалітавіч Канаш, цяперашні жыхар горада Жлобіна, і зараз, нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, працягвае актыўна прапагандаваць родную культуру. Ён, у прыватнасці, актыўна працуе ў мясцовай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны. Таму, калі згаданае эсэ было летась надрукавана ў «ЛіМе», мы палічылі мэтазгодным перадрукаваць матэрыял у жлобінскай райгазеце «Новы дзень».

На жаль, у лімаўскай публікацыі былі дапушчаны пэўныя фактычныя недакладнасці, якія засталіся і ў кнізе. Але, зрэшты, некаторыя недахопы не закрэсліваюць вельмі добрае агульнае ўражанне, што непазбежна ўзнікае пасля знаёмства з першай кнігай маладога журналіста-вайскоўца Алеся Карлюкевіча, якая вяртае з нябыту славутыя, але забытыя імёны з мінулага Бацькаўшчыны і таму паспрыяе вяртанню нацыянальнай памяці беларусаў.

**Мікола ШУКАНАЎ,**
**супрацоўнік жлобінскай райгазеты «Новы дзень».**

ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ



**Фота Белінфарма.**

НАВЕЛЫ

# АРЦЁМ

**Аляксандр КАПУСЦІН**

Было гэта, як цяпер мы кажам, у блізкім замежжы. Стаяла пералётная пара. Уздоўж узбярэжжа цёплага Чорнага мора цягнуліся выраі качак, гусей, лебедзяў. А ў маляўнічым куточку горада Сочы, дзе сярод чароўнай субтрапічнай прыроды дамавіта асталяваўся санаторый «Беларусь», раскашаваўся «вырай» беларусаў.

Адпачывала ў санаторыі і сям'я з Менска: жонка, муж і пяцігадовы Арцём. Пакуль бацькі хлапчука прымалі розныя лячэбныя працэдуры, гарэза бегаў па калідоры і раздаваў білеты. Скубане ад аркуша паперы невялікі шматок, суне сустрэчнаму ў руку і гаворыць: «У кіно», «На поезд», «На самалёт». Каля дзвярэй першы падскоквае да іх, адчыняе і кожнага прапускае наперад. Падшмаргне ўгору свае джынсавыя штонікі і зноў пабег некаму насустрач у канец калідора. Каму заіграе шчырай усмешкай на сваім кірпаносым румяным тварыку, каму зашчабеча што... Радасна было назіраць за яго бясхітраснымі дзіцячымі забавамі.

З адзінаццаці гадзін курортнікі ішлі піць травяныя настоі. Хто страўнікавы, хто сардэчны — каму які ўрач прапісаў. Дзяцей частавалі сокамі цытрусавых. Парожнія шклянкі дарослыя ставілі на высокі стол і ветліва дзякавалі медсястры:

— Спасибо.

— Спасибо.

Арцём выпіў сваю порцыю соку, аддаў шклянку тату, каб паставіў на стол — сам не даставаў. Павярнуўся да медсястры:

— Дзякуй.

Прысутныя зарагаталі.

— У дзіцячым садку вучаць, — ні то з гонарам, ні то апраўдваючыся, растлумачыла маці.

Занялася пустагалосіца:

— Во, сапраўдны беларус! Не тое што мы.

— Настаўнікам будзе!

— Пісьменнікам!

Арцём слухаў і не слухаў. Шаркнуў далонькай па ружовых пухлаватых вуснах, зноў узняў вочы на медсястру.

— Да пабачэння. — Сказаў годна, з непадробнай шчырасцю.

І якая ж светлая і прыгожая была яго дзіцячая непасрэднасць!

— Кім ты, Арцёмка, станеш, як вырасцеш? — спытала ў яго пажылая жанчына мяккім лагодным голасам.

— Грамадзянінам Беларусі.

Хлапчук адказаў з гонарам. Але на гэты раз чыстыя, не картавыя словы яго збянтэжылі мяне. У іх яўна чулася ненатуральнасць, завучанасць.

— Маладзец, — пахваліла жанчына. Пахвала яе прагучала бадзёра, а цёплыя вочы як бы насцярожыліся. Яна пільна пагледзела з-пад апалай над лобам каштанавай прасіўленай пасмы ў ясныя, даверлівыя вачаняты хлапчука. У мяне прамільгнула здагадка, што, можа, ёй падумалася тое, што і мне: ды ці з таго мы пачынаем навучаць дзяцей патрыятызму? Дзіця ж спасцігае ісціну ў прастаце. Поўным сэрцам. Без халоднага роздуму. Хіба яно не вырасце патрыётам, калі навучыцца любіць і развіваць нацыянальную культуру, народныя традыцыі?..

Хлапчук усміхнуўся жанчыне, патэпаў імпартнымі красовачкамі да дзвярэй. Я пазіраў яму ўслед і ў думках сказаў: «Дзякуй табе, Арцём, і за білеты, і за добры ўрок беларушчыны нашаму «выраю».

А ў пакой заходзілі іншыя, выпівалі сваё травяное зелле і дзякавалі медсястры:

— Спасибо.

— Спасибо.






І СМЕХ І ГРЭХ

# У АЎТОБУСЕ

**Зоран БОЖАВІЧ**

Службовы аўтобус імчыць па прамой шырокай трасе. Ніякага лішняга шуму, акрамя ўраўнаважанага мерседэсаўскага рухавіка.

Час ад часу, праўда, трапляюцца выбоіны, тады ўсе падскокваюць і вызіраюць у вокны.

Але вось адзін з пасажыраў падае голас:

— На бліжэйшым павароце трэба ўлева браць.

— Не, — папраўляе яго другі. — Не на бліжэйшым, а праз адзін.

— Калі хочаце трапіць, куды намерыліся, трэба адразу паварочваць управа, — даводзіць трэці пасажыр.

— Управа, ды не на гэтым, а на чарговым павароце, — удакладняе чацвёрты.

— Мы даўно ўжо павінны былі звярнуць улева, — дзеліцца сваім меркаваннем пяты пасажыр. — А так вымушаны будзем вяртацца.

— І я лічу, што свой паварот мы ўжо мінулі! — кажа шосты. — Не згодзен толькі, што паварочваць трэба ўлева.

— Людзі, няхай шафёр глядзіць сам, — прапаноўвае сёмы пасажыр. — Ён такі ж найлепш ведае дарогу.

— Як гэта шафёр?! — не згаджаецца восьмы. — Вырашаць не шафёру. Ён павінен везці так, як мы вырашым.

— Пэўна! — падтрымліваюць гэтае меркаванне з розных бакоў. — Няхай шафёр вязе прама, пакуль мы дамовімся!

Сцямнела. Аўтобус імчыць па прамой. Знакі дарожныя паказваюць, што блізка мяжа. А пасажыры ўсё яшчэ дамаўляюцца. Толькі час ад часу, калі трапляюць на выбоіну, падскочаць, прыціхнуць нечакана, а потым зноў, яшчэ больш гучна і зацята, вядуць абмеркаванне.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

ПАРОДЫІ

**Георгій Юрчанка**

## НЕ МНЕ!

*На гары на Лысай сумна,*
*Ні агеньчыка ў суседзяў.*
**Віктар Лужкоўскі.**

Згасае прозалаць сапфіра,
Ярцвет пялюшкай нікне уніз.
Мінулы дзень пудовай гірай
На бэры стомлена завіс.

Цішэ пошапак на ўзлеску,
Скрабецца нэндза на душы.
Я запалю лучынку-трэску,
Пачну прыгадкі варушыць.

І цэлы вечар плачу цьмяна,
Жыццёвых круч пячэ імгла:
Суседка ўсю сваю крамянасць
Камусь другому аднясла.

## У РОЗДУМЕ

*Не магу ў сабе разабрацца,*
*Як у звоне загадкавых гусляў.*
**Алена Руцкая.**

Невыдумныя гуслі-намеры
Грэюць сэрца наўлоўным цяплом.
Расчыняе мне прывідна дзверы
Ілюзорнасці вабнай жытло.

Пачынаю ізноў хваляваццa,
Адчуваючы мройны падман...
Паблукаць бы, як панна, ўпалацы,
Увайсці ў белагрывы туман.

Ці пачуць мару-спеў з-за пагорка,
Што ліецца, як звонкая медзь...
Зорны б камень знайсці адвячоркам
І самую сябе зразумець...

## ДАЙДУ!

*Не вернеш тое, што было.*
..........................................
*Не страшна згарэць за любоў.*
..........................................
*Шлях да ісціны вельмі далёкі.*
**Іван Лашутка.**

Стынь вякоў над ракой у тумане.
Мудры шэлест расквечаных ніў.
Васільковым світанкам расстанне
Я занова няўмольна сасніў.

Адплываюць, бы здані, аблокі,
Навяваючы стрыманасць дум.
Шлях да ісціны, знаю, далёкі,
Але я — будзьце пэўны! — дайду.

**Вінцук АСЬЦЮК**

## ПРАБЛЕМЫ З ПАШТОВЫМІ СКРЫНЯМІ

*Губляюцца пісьмы*
*У скрынях паштовых...*
...............................
*І ўсё ж давяраю*
*Я сіняй той скрыні...*
**Мікола Мельнікаў.**

Губляюцца пісьмы
У скрынях паштовых
Не толькі ў старых,
Але нават і ў новых.
Пра гэта я знаю
Ад Янкі суседа.
Сто пісем згубілася
Ў гэтае лета.
Ну што за халера
Напала на скрыні?
Мо ўсё ж вінаваты
Тут колер іх сіні?
Мы скрыні з суседам
Перафарбавалі.
Ды ў скрынях чырвоных
Таксама прапалі
Суседавы пісьмы,
Паштоўкі суседкі.
Мо скралі агенты
З кітайскай разведкі?
І хоць давяраю
Я скрыні той сіняй,
Не буду я спаць,
Як ля жонкі, ля скрыні
І пісьмы мае,
А ў іх вершы, паэмы,
Не зведаюць, пэўна,
Ніякай праблемы.




## Д.Джарвіс: ЗАПАЛЕННЕ СЛІЗІСТАЙ ПРЫДАТАЧНАЙ ПОЛАСЦІ НОСА

Пазухі складаюць важную частку дыхальнай сістэмы, паколькі яны звязаны з насавымі шляхамі і дапамагаюць фільтраваць і саграваць паветра, якое ўдыхаецца. Пустыя ў сярэдзіне, пазухі носа таксама ўплываюць на гучанне голасу.

Маецца восем прыдатачных пазух па абодвух баках насавой поласці. На касцявой частцы знешняй сценкі поласці носа размешчаны асновы трох насавых ракавін: ніжняй, сярэдняй, верхняй.

Задняя частка поласці носа — за сярэдняй і ніжняй ракавінамі — складае насаглотачны ход. Мембраны, якія высцілаюць насавыя поласці, пакрыты тонкім пластом драбнюсенькіх валаскоў, якія знаходзяцца ў пастаянным руху і такім чынам выштурхоўваюць слізь з носа. Гэта самае эфектыўнае самаачышчальнае прыстасаванне.

Запаленне адной або некалькіх пазух звычайна развіваецца на фоне шчолачнай рэакцыі мачы. Пры жаванні мядовых сотаў (вечкаў) рэакцыя мачы змяняецца ад шчолачнай да кіслай, што азначае змяненне хімічнай рэакцыі арганізма. Таму людзям з захворваннямі насавых пазух давядзецца прыгадаць, якія прадукты выклікаюць шчолачную рэакцыю мачы, і не ўжываць іх да выздараўлення.

Рэкамендуецца жаваць мядовыя соты штогадзінна на працягу чатырохшасці гадзін. Працягласць кожнага жавання 15 мінут. Затым масу выплёўваюць. Пры вострым запаленні слізістай прыдатачнай поласці носа дастаткова правесці апісаны курс лячэння на працягу аднаго дня. Нос добра прачышчаецца, боль сціхае. На працягу яшчэ аднаго тыдня рэкамендуецца жаваць мядовыя соты раз у дзень для папярэджання магчымага рэцыдыву хваробы.

І яшчэ адна рэкамендацыя: жаваць мядовыя соты раз у дзень з восені (калі дзеці ідуць у школу) і да чэрвеня (калі школьнікаў адпускаюць на летнія канікулы), прымаючы адначасна за кожнай ядой дзве чайныя лыжачкі мёду і рэгулюючы ўжыванне ежы. Гэта гарантыя таго, што рэцыдываў гаймарыту, грыпу ці насмарку ў вас не будзе.

У выніку праведзеных доследаў доктар Джарвіс прыйшоў да вываду, што ў склад забруса (васковых вечкаў) уваходзіць нейкае моцна дзеючае рэчыва, якое бароніць дыхальны тракт ад захворванняў.


Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 44

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7223 паасобнікі.
Падпісана ў друк 31.10.1994 г. у 15 гадзін.